Ярэміч і Рагуля, ды ў супалцы з кс. Станкевічам, каб ратаваць сябе ў вачох нашага сялянства, зрабілі такую штуку. У канцы пятага месяца трыманьня нашых паслоў і дзеячоў у Вронках гэная „цёплая кумпанія“ падала 20 чэрвеня ў Сойме інтэрпэляцыю з прычыны... вывазу паслоў Тарашкевіча, Мятлы, Валошына і Галавача, ды грамадзян Астроўскага, Шнаркевіча і Бурсэвіча у гэныя самыя Вронкі!

Так праз пяць месяцаў гэная „кампанія“ надумалася „ратаваць“ нашых заарыштаваных дзеячоў — ды акурат тады, калі сталася ведамым, што цераз поўтара месяца пракуратура сама маніцца перавезьці арыштаваных назад у Вільню! А пасьля гэныя спэкулянты на чужым няшчасьці будуць пісаць у сваіх газэтах, што... паслоў перавязьлі ў Вільню, дзякуючы іхнім стараньням!

**Старая песьня на новы лад.** Як інфармуе „Кур. Віл.“, каторы ўсьцяж займаецца рэклямаваньнем „работы“ Павлюкевіча, утвораная „доктарам“ новая партыя пад назовам „Беларуская Нацыянальная Партыя“ падала ўладам да зацьверджаньня свой арганізацыйны статут. Ну, ды й пад новай фірмай нікога „доктар“ ня здолее ашукаць, апрача мо... польскае адміністрацыі!

**Афіцыяльны курс грошы на 24 чэрвеня.** Даляр—8 зл. 89 гр. Залаты рубель — 4 зл. 60 гр.

24./VI. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 8,90. Зал. р. 4,70. Чырв. 3 дал. 90 цэн.

# КАРЭСПАНДЭНЦЫ

## Прасьвета шырыцца, сьвядомасьць расьце.

(Косаўшчына, в. Гошчава).

Наш гурток Т-ва Беларуск. Школы пачаў больш інтэнсыўную працу па пашырэньню беларускае культуры. Дзеля гэтае мэты пры гуртку стварылася сталая драматычная дружына, якая будзе мець за абавязак ставіць спэктаклі ня толькі ў сваёй вёсцы, але дапамагаць і суседнім вёскам у іх тэатральнай працы. Вялікую заслугу ў гэтым адыграў гурток Т-ва Белар. Школы з в. Сенькавічы, які сваім добрым прыкладам, сваею працаю наказаў нашай моладзі, што ня ў п'янстве і распусьце, як было да гэтага часу, а ў дружнай, ахвярнай і супольнай працы, наша моц і сіла і наша перамога. На гэтым месцы складаем сенькаўцам шчырую падзяку за іх ахвярную працу і за тую дапамогу, якую атрымалі ад іх. Ваша праца дарэмна не прапала. Цьвёрда верым і спадзяемся, што за вашым прыкладам пойдуць іншыя вёскі Косаўшчыны, і мы агульнымі сіламі будзем гнаць з нашых вёсак, з нашых курных хатак цемру і п'янства. Да працы! Да жывой творчай працы! **Гошчавец.**

## Водгукі 10-х угодкаў М. Багдановіча.

(З Косаўшчыны).

Гуртком Т-ва Бел. Школы вёскі Сенькавічы, Борка-Гічыцкае воласьці, 2-га чэвеня с. г. было ўладжана ўрачыстае сьвяткаваньне дзесятых угодкаў сьмерці беларускага песьняра Максіма Багдановіча. У прыгожа ўдэкараванае памешканьне гуртка ў 4 гадзіне сабраліся сябры гуртка, а таксама і запрошаныя госьці. Старшыня гуртка, прывітаўшы ўсіх сабраных, у кароткіх рысах адзначыў тую вялікую ролю, якую адыграў у беларускім руху бясчасна памёршы паэта М. Багдановіч і заклікаў усіх сабраных да напружанае барацьбы з цемраю і да пашырэньня нашае роднае беларускае культуры. Сабраньне ўшанавала памяць песьняра ўставаньнем і, стоячы тварам да ўдэкараванага вянкамі з кветак і зелянівы абразу, сьпяяла жалобны марш. Пасьля адбыліся рэфэраты на тэмы „Жыцьцё і творчасьць М. Багдановіча“ і „праблемы красы й мастацтва ў творах М. Багдановіча“. Урачыстасьць закончылася дэклямацыяй і пяяньнем „Ад веку мы спалі“. Вялікае ўражаньне на прысутных зрабіла дэклямацыя твораў памёршага песьняра. Па заканчэньню сьвяткаваньня народ і моладзь разыходзіліся поўныя ахвярнасьці „У змаганьні з нядоляй патраціць апошнія сілы“ і разам з паэтам поўныя цьвёрдай надзеі, што:

„Не загасьне сонца! Сонца гляне,
Усіх падыме ада сна!
Ен, гэты дзень, яшчэ настане, —
І ачуняе старана“.

**Муха.**

## Вось якую даюць нам асьвету.

(Горадзеншчына, в. Масаляны).

У часе складаньня дэкларацыяў на беларускую ўрадавую школу, жыхары нашай вёскі, як адзін, з захаваньнем усіх вымогаў закону, зложылі Школьнаму Інспэктару м. Горадні дэкларацыі, у чым атрымалі пасьведчаньні. Разам з гэтым падалі заяву ў Галоўную Управу Т-ва Бел. Школы аб адчыненьні прыватнай беларускай школы. Пасьля гэтага, дзяцей у польскую школу ніхто не пасылаў, спадзяючыся, што будзе свая беларуская школа. У восень прыехаў войт з пісарам зьбіраць грашавую кару па 5 злотых з кожнага, чыё дзіця не хадзіла ў польскую школу. Жыхарства, апіраючыся на распараджэньне Міністра Асьветы, адмовілася плаціць штраф. 1-га чэрвеня с. г. гэтыя адміністратары ізноў завіталі да нас усе на той-жа штраф. Зьявіліся да жыхара М. Вараб'я, які адказаў, што заплаціць штрафу ня мае ніякае магчымасьці з браку грошаў. Войт з пісарам, угледзіўшы лубін, забралі за 5 зл. штрафу два пуды лубіну. Калі-ж войт, на просьбу Максіма Вараб'я, аб выдачы ў гэтым пасьведчаньня, адмовіў яму, Варабей забраў мяшок з лубінам і ня даў яго, ня гледзячы на ўсе стараньні пісара пана Домброўскага. Цяпер грам. Вараб'я страшаць пратаколамі і іншымі карамі. Але і гэтым не адбілі яны ў нас ахвоты да свае роднае беларускае школы. Як і раней, мы моцна стаім на груньце, што толькі родная школа вывядзе нас з бяды і нэндзы і давядзе нас да сьветлае і шырокае будучыны. **Жыхар.**

## Адзіны сялянска-работніцкі фронт да выбараў.

(З Горадзеншчыны).

У мястэчках Скідлі і Індуры, Горадзенскага павету, нарэшце вызначаны выбары да местачковых самаўрадаў (магістратаў) на дзень 17 ліпня. У гэты дзень усе сяляне, аб'яднаўшыся з работнікамі, бяз розьніцы нацыянальнасьці, мусяць ісьці адным супольным фронтам да выбараў, памятаючы, што гэта ёсьць адна з форм барацьбы за лепшую будучыню.

Розныя буржуазна-угадовыя партыі ўжо павялі жывую прадвыбарную агітацыю; яны і цяпер хочуць выкарыстаць гэты мамэнт, каб і далей баламуціць нас сваімі абяцанкамі. ППС, Пяст, Хадэкі хочуць ізноў падняцца ўгору на карках беларускага селяніна і работніка.

Праўда, што сяляне і работнікі цяпер добра ўжо ведаюць сваіх ворагаў і ня пойдуць, як гэта было калісь—сем гадоў назад,— за пекнымі пэпэсаўскімі лёзунгамі: „Зямля сялянам бяз выкупа“, „niech żyje rząd robotniczo chłopski“ і т. п., бо ведаюць, што гэта ёсьць шырма, фальшывая маска, за якой туліцца твар звычайнага, найзвычайнейшага буржуазнага прыхвосьніка, вернага служкі капіталу. А раз так, дык беларускія працоўныя масы павінны даць належны адпор усей гэтай пазьлятаўшайся своры груганоў, ды не галасаваць за ніводнага прыхвосьніка з вышэй успомненых угрупаваньняў.

Да самаўрадаў вызначайце людзей спасярод сябе, якія — згодна з вымаганьнем агульнай сялянска-работніцкай салідарнасьці—шчыра будуць бараніць вашы інтарэсы. Дзень 17-га ліпня няхай будзе дэманстрацыяй сьвядомае сілы работніцка-сялянскае масы. Дзеля гэтага ўсе працоўныя м. Скілля і Індуры бяз розьніцы рэлігіі і нацыянальнасьці аб'яднайцеся і супольнымі сіламі з лёзунгамі працоўнае беднаты станьце да выбараў усе, як адзін. **Молат.**

## Забастоўка работнікаў у капальні торфу.

9 чэрвеня ў 10 гадзіне раніцы ў капальні торфу каля вёскі Падбагонікі, Мала-Берастаўіцкае гміны, Горадзенскага павету пачалася забастоўка работнікаў. Работнікі дамагаюцца павялічэньня платы на кожную тысячу выкапанага торфу. Забастоўка пакуль што ня спынена. **Работнік.**

# З Радавае Беларусі.

## Стыхійныя няшчасьці.

І ў Радавай Беларусі той ураган, які гэтулькі шкоды зрабіў у Заходняй Беларусі, зрабіў вялізарныя спусташэньні. На вялізарным прасторы зьнішчаны пасевы. Урад БСРР распачаў энэргічную акцыю дзеля аказаньня помачы пацярпеўшым.

## Аб пабудове беларускай раённай электрычнай станцыі ў м. Воршы, на Асінаўскім тарфяным балоце.

Рада працы абароны ССРР пастанавіла прыступіць у 1926—27 г. да пабудовы беларускай раённай электрычнай станцыі недалёка ад м. Воршы на Асінаўскім тарфяным балоце для электрафікацыі раёнаў — Віцебскага, Аршанскага і Магілёўскага — магутнасьцю першай чаргі ў 22 тысячы кілёват, з лініямі электраперадач на м. Віцебск і Шклоўскую папяровую фабрыку. Пабудову электрычнай станцыі скончыць не пазьней восені 1929 г. Кошт гэтай электрычнай станцыі, ліній электраперадач да м. Віцебску і Шклоўскай папяровай фабрыкі і галоўных падстанцыяў вылічаны ў 13.500.000 рублёў. Сродкі на пакрыцьцё гэтай сумы пойдуць з такіх крыніц: з агульнасаюзнага каштарысу на электрафікацыю 9.320.000, з выплатай да 1931 г. і з бюджэту Беларускай Рэспублікі 4.000.000 руб. з выплатай да канца 1930 году.

## Рукапіс Дунін-Марцінкевіча „Гапон“.

Праглядаючы альбом са старасьвецкімі фатаграфічнымі здымкамі сваёй пляменьніцы, загадчык Бабруйскага акруговага архіву—карэспандэнт ІБК па ахове помнікаў на Бабруйшчыне гр. П. Тараймовіч нечакана натрапіў на фатаграфічны здымак беларускага пісьменьніка XIX ст. Вінц. Дунін-Марцінкевіча.

Як выявілася, альбом са старасьвецкімі фатаграфічнымі здымкамі падаравала дзяўчынцы для забавы грамадзянка г. Бабруйску Янушкевіч (Келчэўская)—бабулька 65 гад.

— Ці ведаеце вы, бабка, спытаў П. Тараймовіч у бабулькі, гэтага чалавека, паказваючы фатаграфію В. Дунін-Марцінкевіча.

— Ну, чаму-ж ня ведаць, ён-жа з братам маім сябраваў, толькі прозьвішча яго ня памятаю, старасьць...

— Мо' гэта Дунін-Марцінкевіч?

— Ен самы, самы!—і бабулька ўспомніла, што ёй ад памёршага брата ў спадчыну дасталася нейкая кніжачка, якую падараваў яе брату Марцінкевіч. Доўга шукала, нарэшце, неахвотна перадала П. Тараймовічу.

„Нейкая кніжачка“ ўяўляе сабою рукапіс пісаны рукою В. Дунін-Марцінкевіча ў разьмеры невялікага паштовага аркушу. Старанна рукою ў ёй напісана аповесьць „Гапон“,—верш „Павіншаваньне войта Навума ў дзень імянін панны В. Ш.“, з дадаткам разьдзелу „Вершы розныя“—дзе зьмешчаны два вершы: „Малітва ў дзень задушны“—Менск 1848 г. і „Дзеці і матка“—1849 г.

Рукапіс і фатаграфія пісьменьніка гр. П. Тараймовічам пераслана ў Інстытут Беларускай Культуры.

Находка зьяўляецца бязумоўна цэннай.

## Пасьпех Бел. 1-га Дзярж. Тэатру ў Гомелі.

5-га чэрвеня Бел. 1-ы Дзярж. Тэатр павінен быў скончыць сваю працу ў Гомелі. Першыя пастаноўкі тэатру зрабілі настолькі моцны ўплыў на насельніцтва, што тэатр прымушан астацца ў Гомелі яшчэ на некалькі гастроляў. Будучыя гастролі адкуплены грамадзкімі арганізацыямі.

## Бел. 2-гі Дзярж. Тэатр у Магілёве.

У Магілёў прыехаў з Віцебску Белар. 2-гі Дзярж. Тэатр, дзе дасьць 14 спэктакляў.

Пасьля сканчэньня працы ў Магілёве, артысты ідуць у адпачынак. Затым тэатр прыяжджае ў Менск, дзе будзе працаваць увесь сэзон 1927-28 году.

# Усячына.

## Цікаўны праект рэформы календара.

Як ведама, істнуючы цяпер на сьвеце календар, ці календары, апроч таго, што іх шмат, ды што яны пярэчаць адзін аднаму, да таго-ж—усе недакладныя, навет—найлепшы, так-званага „новага стылю“.

Гэтая маса календароў ды недарэчнасьць залежаць ад таго, што над календаром чамусьці дагэтуль утрымалася апека царквы, ці цэркваў, з якіх кожная на свой капыл рабіла ды перарабляла календары, ня маючы дзеля гэткай працы ані адпаведнага дасьледу, ані папросту неабходнай навуковай веды. Дык першым варункам дзеля злажэньня добрага, рацыянальнага (разумнага), а перадусім — адзінага для ўсяго культурнага сьвету календара зьяўляецца вызваленьне календара ад зусім недарэчнай улады над ім ды апекі цэркваў. Трэба стварыць абсалютна сьвецкі календар, пабудаваны выключна на навуковых падставах, агульна ясных і прызнаных. Тады гэты календар можа быць прыняты ўсімі народамі Зямлі, якія ад таго мецімуць вялізарную карысьць аднолькавасьці галоўных „рамак часу“. Бясспрэчная важнасьць гэтага ясна кожнаму.

Пры Лізе Народаў даўно ўжо працуе камітэт, які мае злажыць такі агульна прыняты рацыянальны календар. Шмат праектаў ляжыць ужо ў архіве гэтага камітэту. Асабліва многа праектаў нямецкіх. Адзін з апошніх праектаў падаў нейкі немец Вэлер. Праект настолькі просты і разумны, што, калі-б народы запраўды здолелі выдзяліць справу „чыстага календара“, у якім голас маюць толькі Сонца, Зямля ды Месяц,—дык прынялі-б гэты праект Вэлера аднадумна.

Новы праект дзеліць увесь год на 12 месяцаў, кожны па 30 дзён роўна. 5 дзён, якія астаюцца ад гэтага ў звычайным годзе, Вэлер разьмяшчае так: — першы „дзень бяз даты“—1 дзень і сьвята Новага Году. 4 дні, якія ёсьць яшчэ, так сама ня маюць даты і зьяўляюцца сьвяткамі вясны, лета, восені і зімы. Яны маюць адзначаць 4 найважнейшыя для Зямлі мамэнты ў „кругабегу сонца“—дні так званага веснавога ды васеньняга „раўнадзенства“, калі дзень роўны ночы, і дні, калі ноч ці дзень — найдаўжэйшыя. Гэтыя 4 дні бяз даты маюць быць устаўлены між 20 і 21 днём месяцаў сакавіка, чэрвеня, верасьня і сьнежня. У гадох пераступных („вісакосных“)— праз кожныя 4 гады — дадаваўся-б шосты дзень бяз даты, які-б дзяліў год яшчэ на палову.

Усе гэтыя дні бяз даты былі-б Сьвятамі Прыроды, дый сьвяткаваліся б асабліва ўрачыста. Ніхто б, зрэшта, не перашкаджаў розным цэрквам ды дзяржавам на гэтай агульнай астранамічнай аснове рабіць сабе, што яны знойдуць патрэбным, у галіне царкоўных ды нацыянальных сьвятаў.

# Паштовая скрынка.

**Я. В.** Вершы Вашы не падыходзяць да друку. Па форме яны вельмі слабыя яшчэ, па зьместу выказваюць застарэлыя ўжо думкі, а да таго небясьпечныя з боку цэнзуры.— **Аляксею Ляўчуку.** Пераклад Ваш з расейскага вельмі няўдалы, таму да друку не падыходзіць. — **Казлу А.** У карэспандэнцыі трэба падаць дакладны свой адрас і месца здарэньня, азначыць, якімі адміністрацыйнымі ўладамі зроблена надужыцьце, і пісаць разборчывей. — **К. Слабому.** Нажаль, і цяпер Вашай карэспандэнцыі зьмясьціць ня можам, бо за яе могуць сканфіскаваць газэту. -- **К. Незабудцы.** Вашай карэспандэнцыі рэдакцыя не атрымала.



Рэдактар-Выдавец: М. Гічан. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22.